ЦАНА 50 КАП.

НАВІНЫ

БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ „АДРАДЖЭНЬНЕ"

23 красавіка 2'1990



Фота Кастуся Войткі.

# ХРЫСТОС УВАСКРОС

...Хрыстос уваскрос!

Зь вялікім сьвятам адвечнага аджыўленьня віншую цябе, Вялікі Беларускі Народ!

Гэтай вялікай ночы страсі з сябе ўсю пагарду, увесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую апратку, каб хоць на адзін дзень стаў ты роўным з усімі. Ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

– Хрыстос уваскрос!

Услухайся ў іх. Якая вялікая сіла, які ўсёажыўляючы зьмест захованы ў іх. Ці ня чуеш, як радасьцю надзеі, радасьцю скорага ўваскрэсеньня вее на цябе ад гэтых слоў:

– Хрыстос уваскрос!

Радуйся, мой родны край. Надзея, як жывучая вада, ліецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскрэсьнеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і да цябе.

– Хрыстос уваскрос!

Над ім зьдзекваліся. Яго білі па твары, сьцябалі бізуном. Плявалі на яго. Кпілі зь яго. У канцы расьпялі і расьпятага не пераставалі мучыць. Сьпечаныя смагай вусны зьвільжвалі воцатам і жоўцю. Ён памёр на крыжы паміж двух разбойнікаў. Але ўсё ж ткі

– Хрыстос уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і крыж, раней знак пагарды і сораму, зрабіўся сьвятыняй усяго сьвету. Мукі Хрыстовы змылі ўсё з яго. І штогоду вялікай вясеньняй ночы тысячы цэркваў і касьцёлаў сьвецяцца агнямі сьвечак, ліецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над мільёнамі схінёных галоў і ў паветры носіцца радасны шэпт:

– Хрыстос уваскрос!

Што гавораць табе званы, Беларускі Народ? Ці не віншуюць яны цябе і з тваім уласным вялікім сьвятам? Скора ж і ты ўваскрэсьнеш! Ад вякоў пагарджалі табой, тваёй мовай; ад вякоў мелі за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу. Не давалі табе расьці і разьвівацца. Воцатам чужой культуры зьвільжалі твае сьпячоныя смагай сьвету вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікам. А цяпер пышаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны так іхнія.

А хіба ж яны не любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца афяравалі яны не табе? А гдзе яны?

Іх няма з табой. З самага малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю проці цябе. Цябе катавалі. Ты цярпеў мукі, але ня ўмёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу.

Хрыстос быў з табой у тваіх муках; і ён разам з табой цярпеў іх. Колькі разоў расьпіналі яго разам з табой! Больш разоў, чым ёсьць пясчынак на дне мора! Але кожнага году па ўсёй Беларускай зямлі разносіцца кліч:

*Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,*
*Адвечных ня можам пазбыціся сьлёз...*

Ты ўжо перастанеш плакаць. Ты падняў свой твар, з надзеяй ловіш зыкі званоў:

"Бом! бом!.. Прачынайся ад сну, Беларусь! Годзе стагнаць ды жаліцца, жальба нічога ня дасьць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную Бацькаўшчыну!"

*Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне!*
*Вясна ўжо на сьвеце – Хрыстос уваскрос!*

Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю. І, поўны сілы і веры, я крычу ва ўсю моц тваім нівам, лясам і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сынам:

– Зь вялікім сьвятам віншую! Зь вялікім святам, Вялікі Беларускі Народ!

– Хрыстос уваскрос!

1910 г. Сяргей ПАЛУЯН.

# КАЛАБАРАЦЫЯНІЗМ ЦІ «ЖОРСТКАЯ» АПАЗІЦЫЯ?

## СПРОБА АНАЛІТЫЧНАГА РАЗГЛЯДУ ВЫНІКАЎ ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ

Юры ХАДЫКА

Выбарчая кампанія 1990 г. яшчэ працягваецца, але насьпеў час вызначыць яе галоўныя вынікі і галоўныя асаблівасьці. Зараз гэта можна зрабіць з большай ці меншай пэўнасьцю, бо выбрана ўжо 2/3 дэпутатаў Вярхоўнага Савету і большая частка дэпутатаў мясцовых саветаў. Выключэньнем зьяўляюцца, бадай, толькі Менскі гарадзкі савет ды некаторыя іншыя гарсаветы, канчатковы склад якіх прадказаць цяжка.

Нават павярхоўнае знаёмства са сьпісам дэпутатаў новага Вярхоўнага Савету паказвае, што сярод іх відавочна пераважаюць прадстаўнікі каманднa-загаднай сістэмы. Тут ня толькі Я.Сакалоў, М.Дземянцей і А.Камай – найбольш яркія зоркі беларускага партыйнага небасхілу, але і трэцяя частка ўсіх першых сакратароў сельскіх райкамаў. Адносна невялікая група дэмакратычных кандыдатаў, якія былі выбраныя па сьпісе Беларускага Дэмакратычнага Блоку на платформе "Галасуй за Беларусь!" практычна ня здольная паўплываць на характар тых законаў, што будуць прымацца новым парламентам.

Надзеі і спадзяваньні на хуткую дэмакратызацыю жыцьця трэба адкласьці і падрыхтавацца да працяглай і ўпартай барацьбы за ліквідацыю партыйнай манаполіі на ўладу.

Як жа адбылося так, што сьвежыя вятры пераменаў абмінулі наш край? Яны растапілі ільды ва ўсіх краінах Усходняй Еўропы, у Балтыі, пацяплела ў Расіі ды на Украіне. І толькі Беларусь – як айсьберг у цёплых водах.

Асноўныя рысы стратэгіі і тактыкі партыйнай верхавіны на Беларусі былі выпрацаваны яшчэ ўлетку 1989 года, калі прайшоў першы прыступ страху, выкліканы ў наменклатуры выбарамі народных дэпутатаў СССР. Напярэдадні Ўстаноўчага зьезду БНФ па каналах "партыйнага самвыдату" была распаўсюджаная брашура, у якой па тэзісах разьбіраліся яшчэ не прынятыя Праграма і Статут БНФ. У хуткім часе брашуру перавыдалі накладам у некалькі дзясяткаў тысяч асобнікаў. Стала зразумела, што галоўным накірункам барацьбы супраць БНФ парталігархія выбрала дэзінфармацыю і замоўчваньне сапраўднай пазіцыі "Адраджэньня". Далейшыя падзеі пацьвердзілі гэта.

Быў узмоцнены партыйны кантроль над сродкамі масавай інфармацыі, якія пачалі тыражаваць толькі "заключэньні" афіцыйных асобаў. Народнаму Фронту ўпарта адмаўлялася ў рэгістрацыі, нягледзячы на тое, што гэтае "непрызнаньне" БНФ каштавала нашаму народу замежнай дапамогі лекамі і медабсталяваньнем, якую прапанавалі беларускія эміграцыйныя арганізацыі.

У пачатку восені зьявіўся праект выбарчага закону, які побач з захаваньнем акруговых сходаў і кялейных выбараў ад грамадзкіх арганізацыяў уключаў дадаткова каля 20 новых "пастак" – яўных ці няяўных перашкодаў дэмакратычнаму волевыяўленьню насельніцтва. Былі сьпешна створаныя камітэты грамадзкага самакіраваньня, адзінай недэмагагічнай мэтай якіх было паставіць пад кантроль партапарату вылучэньне кандыдатаў па месцы жыхарства – там, дзе няма парткамаў, дзе людзі адчуваюць сябе вальней, чым на працы. Для тых прадпрыемстваў, якія маюць права вылучэньня, вызначаўся вельмі высокі колькасны парог. Паколькі такіх залаў, дзе можна разьмясьціць больш 300 чалавек, вельмі мала, вылучэньне кандыдатаў ад працоўных калектываў магло адбывацца амаль выключна на канферэнцыях, а гэта – крыху мякчэйшы варыянт акруговых сходаў.

Антыдэмакратычныя палажэньні напаткалі моцную кампанію пратэсту, і рэспубліканскае кіраўніцтва мусіла ахвяраваць часткаю месцаў для грамадзкіх арганізацыяў і акруговымі сходамі, якія выклікалі асабліва рэзкае пярэчаньне. Аднак астатнія "навінкі" у законе захаваліся і сталі рэальнай перашкодай вылучэньню дэмакратычных кандыдатаў.

У выбарчым заканадаўстве наменклатура зрабіла толькі адну памылку, недацаніўшы маладыя грамадзкія аб'яднаньні. Менавіта праз рады Таварыства Беларускай Мовы і Беларускага Экалагічнага Саюзу, якія ўвайшлі ў перадвыбарчы саюз з БНФ, была вылучаная асноўная колькасьць дэмакратычных кандыдатаў. Спахапіўшыся ў канцы студзеня, ужо пасьля заканчэньня кампаніі вылучэньня, Прэзідыум Вярхоўнага Савету прыняў адчайны акт – Пастанову, якая анулявала вынікі вылучэньняў ад радаў ТБМ і БЭСа. Толькі відавочная супрацьзаконнасьць гэтага акту змусіла праз тыдзень адмяніць яго.

Яшчэ адным сьвядомым мерапрыемствам, разьлічаным на дэзарыентаванасьць і недасьведчанасьць людзей, стала прызначэньне адначасных выбараў у Вярхоўны і мясцовыя саветы, а таксама правіла, што ў выпадку, калі ніхто з кандыдатаў у другім туры не набірае болей за 50% галасоў, прызначаюцца новыя выбары.

Падрыхтаваўшыся да выбараў у стратэгічна–арганізацыйным плане, кіраўніцтва КПБ распрацавала і адпаведную тактыку. Лідэры былой партыі рабочага класу вылучаліся па найбольш глухіх сельскіх акругах, дзе ў іх або не было канкурэнтаў, або канкурэнтамі зьяўляліся падстаўныя асобы, гатовыя зьняць кандыдатуры ў кожны момант. Лідэры ня грэбавалі і дробнымі падачкамі, прамым подкупам выбаршчыкаў – карыстаючыся службовым становішчам, арганізоўвалі асфальтаваньне вуліц і продаж дэфіцытаў у сваіх акругах. У той жа час у буйных гарадах паралельна з дэмакратычнымі кандыдатамі вылучаліся партыйная крэатуры – дырэктары, сакратары парткамаў, рабочая арыстакратыя і іншыя залежныя ад КПБ асобы. Наогул гэта адпавядала рэальнаму палітычнаму становішчу. Партыя, страціўшы выразнае палітычнае аблічча, ліхаманкава шукала прывабныя для людзей маскі і адначасна імкнулася "расьцягнуць" галасы выбаршчыкаў.

Зразумела, што ў варунках, калі прапаноўвалася 10–15 кандыдатур адначасна, першы тур галасаваньня мог быць толькі сродкам высьвятленьня папулярнасьці тых ці іншых палітычных кірункаў. І ягоныя вынікі апынуліся надзвычай цікавыя. Найбольшую падтрымку атрымалі кандыдаты дэмакратычнага блоку – ад 20 да 60% галасоў. Цалкам праваліліся прадстаўнікі ліберальнага кірунку ў апараце (Л.Сыраегіна, К.Астрынскі і інш.). Па сельскіх акругах прайшлі "гаспадары" раёнаў, калгасаў і першыя асобы партыйнай наменклатуры.

Вырашальны ўдар па суперніках партапарат нанёс у апошнія дні перад другім турам галасаваньня. Відавочная хлусьня, якая ў час самой кампаніі распаўсюджвалася ва ўлётках і дзейнічала толькі на карысьць таго, супраць каго пісалася, была перанесеная на старонкі "вялікага" друку. Разьлік на давер да друкаванага слова спраўдзіўся: пэўная частка людзей зьнявызначанай пазіцыяй адхіснулася ад БНФ, і прырост галасоў, атрыманы прадстаўнікамі "Адраджэньня", ня стаў такі значны, як можна было спадзявацца. У выніку ў 19 акругах ніхто не набраў больш за 50% галасоў, і там адбудуцца новыя выбары. Частка лідэраў БНФ апынулася па-за межамі парламенту.

**Тым ня менш дэмакратычная фракцыя ў Вярхоўным Савеце БССР будзе налічваць некалькі дзясяткаў чалавек. Натуральна, што перад імі паўстаюць вельмі складаныя пытаньні. Мабыць, галоўнае сярод іх – як утварыць дэмакратычную фракцыю. Большасьць дэмакратычных дэпутатаў перамагла на платформе БНФ, але ў правінцыі напэўна будуць людзі, якія таксама могуць далу-**



Фота Сяргея Кажамякіна.

**чацца да гэтай платформы, хаця выбіраліся як незалежныя дэпутаты. Яны прынясуць з сабою і пэўныя ваганьні, імкненьне стварыць аб'яднаньне дэмакратычных дэпутатаў бяз вызначанай праграмы і фракцыйнай дысцыпліны. Інакш кажучы, на парадак дня выйдуць дзьве мадэлі апазіцыі – "жорсткая" і "мяккая", схільная да кампрамісу з кансерватыўнай большасьцю.**

**Трэба падкрэсьліць, што калабарацыяніісцкія настроі вельмі небясьпечныя ў той палітычнай сітуацыі, якая на сёньняшні дзень склалася ў Рэспубліцы. Пры сваёй невялікай колькасці дэмакратычная група безумоўна ня будзе мець вырашальнага ўплыву на Вярхоўны Савет. Карыстаючыся гэтым, кансерватары могуць прыняць усякі, самы антыдэмакратычны закон. Але ў гэтым выпадку тыя, хто раней пайшоў на беспрынцыповы кампраміс, незалежна ад вынікаў пайменнага галасаваньня, падзеляць адказнасьць з кансерватарамі за прыняты заканадаўчы акт. Гэта сур'ёзна пагражае папулярнасьці дэмакратычных дэпутатаў, якую яны ня маюць права губляць, бо ў нашым становішчы аказаць пазітыўны ўплыў на парламент і, магчыма, дамагчыся яго дэмакратызацыі можна толькі абапіраючыся на магутную народную падтрымку.**

**Гэтая жорсткая неабходнасьць утварэньня фракцыі ня значыць, вядома, што яе ўдзельнікі павінны заўсёды галасаваць супраць. Існуе шэраг праблемаў, дзе магчымае пагадненьне. І першай тут стаіць праблема Чарнобыля, а таксама скасаваньне 6-га артыкула Канстытуцыі БССР, рэгістрацыя БНФ ды іншых грамадзкіх арганізацыяў. З другога боку, існаваньне фракцыі дазволіць ня толькі цывілізавана арганізаваць дыскусіі ў Вярхоўным Савеце, але і сістэматычна выкладаць і абараняць народную альтэрнатыву той законатворчасьці, якую будзе праводзіць партапарат.**

**Фракцыя неабходная і для вырашэньня пытаньня пра кіраўнічыя органы парламенту. Зразумела, што пасаду Старшыні Вярхоўнага Савету зойме Яфрэм Сакалоў. Магчымы варыянт увядзеньня на манер Масквы паста Прэзідэнта, тады галоўным прэтэндэнтам на гэты пост будзе той жа Я.Сакалоў. Нягледзячы на непапулярнасць, партыя ўзнагародзіць свайго вернага байца. А вось вакол пасады намесьніка Старшыні Вярхоўнага Савету (у варыянце з Прэзідэнтам – Старшыні Вярхоўнага Савету), якую, трэба думаць, рыхтуюць для яшчэ больш непапулярнага Мікалая Дземянцея, могуць узьнікнуць парламенцкія гульні, паколькі гэты пост мэтазгодна было б заняць чалавеку больш гнуткаму і памяркоўнаму, больш здольнаму да канкрэтнай працы, у тым ліку і з прадстаўнікамі апазіцыі. Сярод дэмакратычных дэпутатаў могуць разглядацца дзьве кандыдатуры – пісьменьнік Ніл Гілевіч і прафесар Станіслаў Шушкевіч.**

**Мяркую, што пісьменьнік Н.Гілевіч ад гэтай клапатлівай пасады адмовіцца. А вось С.Шушкевіч можа атрымаць перамогу, калі будзе абапірацца на маналітную падтрымку дэмакратычнай фракцыі, паколькі ягоная кандыдатура, папулярная сярод часткі ліберальнага партапарату, ня будзе падтрыманая "ястрабамі".**

**На жаль, выбары яшчэ ня скончыліся. Яны наогул могуць працягвацца "да восені", бо антыдэмакратычнае заканадаўства, выканаўшы сваё галоўнае прызначэньне, пачынае працаваць супраць сваіх жа стваральнікаў. Зь цягам часу ўсё грамадзтва ўсьвядоміць сапраўдны сэнс і штучны характар гэтага выбарчага закону. Таму, зазіраючы на некалькі месяцаў наперад, мы не павінны скідаць з рахунку тое, што грамадзкая думка ў Рэспубліцы можа значна "палявець". Асабліва ў тым выпадку, калі мы ня будзем забывацца, што <u>дэмакратыя не сканчаецца, а толькі пачынаецца з выбараў.</u>**

# СЬВЯТЛО У КАНЦЫ ТУНЭЛЮ

Віктар ІВАШКЕВІЧ

Калі надыходзіць час падводзіць вынікі, пераасэнсоўваць, падрахоўваць набыткі?

У жыцьці чалавека – гэта, напэўна, моманты трохі іранічнага позірку ў дзяцінства, кароткага прыпынку паміж юнацтвам і сталасьцю. А далейшыя затрымкі ўжо надараюцца каля вехаў, што ў небясьпечнай плыні пазначаюць вір альбо водмель. Грамадзкае жыцьцё ідзе па тых жа законах, толькі яно не дае раскошы зацягненага палітычнага дзяцінства.

Дзяцінства скончылася.

Час азірнуцца.

x x x

У 1985 годзе было заснаванае таварыства аховы культуры і памяці "Талака". У ідэалагічны падмурак маладзёжнай суполкі яе стваральнікі заклалі ідэі Кастуся Каліноўскага, беларускіх адраджэнцаў пачатку стагодзьдзя, Беларускай Сялянска–Работніцкай Грамады, Таварыства Беларускай Школы. Праграма–максімум фармулявалася як нацыянальна–культурнае адраджэньне, але кожны "талаковец" ясна бачыў мэту: незалежная Беларусь.

Рэальна ўсьведамляючы даўжыню дыстанцыі, "талакоўцы" рыхтаваліся да марафону. Выкарыстоўвалася тактыка "малых справаў": лекцыі на прадпрыемствах, абыход кватэраў з агітацыяй за стварэньне беларускіх школаў, праца на рэстаўрацыі помнікаў. Культываваўся прынцып: "Пачні зь сябе". Праграма–максімум успрымалася не дагматычна, а праз гісторыка–культурную самаадукацыю. Любоў да бацькаўшчыны была не дэкларацыйная, а адчувалася дотыкам да далоняў, шурпатых ад рыдлёўкі – пасьля працы на археалагічных раскопках, альбо ад вёслаў – пасьля воднага маршу–пратэсту супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС. Выгадаваная ў рускамоўных сем'ях, асіміляваная моладзь вучылася гаварыць па-беларуску. Апроч таго, існавала пэўная структура – з індывідуальным сяброўствам, фіксаванымі складкамі, канкрэтнай і абавязковай працай. Адбор людзей вёўся метадычна і рупліва: да вясны 1988 г. ў Рэспубліцы было ўжо каля сарака падобных суполак. Нацыянальная ідэя давала ім гарт.

Гэта былі часы, калі слова "партыя" ня мела яшчэ ў нашай сацыялінгвістыцы множнага ліку. Але жыцьцё абганяла час.

x x x

Увесну 1988 г. перамаглі "сьпеўныя" рэвалюцыі Балтыі. У лічаныя месяцы палі брэжнеўскія рэжымы. Ствараліся і атрымлівалі юрыдычны статус Народныя франты, дэ–факто ўводзілася шматпартыйнасьць, свабода слова, друку, маніфестацыяў.

Лёгкасьць балтыйскіх рэвалюцыяў спарадзіла эйфарычны настрой. Масавасьць арганізаваных па ініцыятыве маладзёжных суполак мітынгаў у Курапатах, Гародні, Наваполацку ўсяляла спадзяваньне на посьпех "беларускага варыянту". Мясцовая наменклатура, разгубленая і дэмаралізаваная лёсам сваіх калегаў у Балтыі і ростам тутэйшай палітычнай актыўнасьці, уяўлалася калосам на гліняных нагах.

У такіх умовах 19 кастрычніка 1988 г. на Устаноўчым сходзе таварыства "Мартыралог Беларусі", пры ўдзеле прадстаўнікоў усіх творчых саюзаў Рэспублікі, Фонду культуры, актывістаў беларускіх суполак быў створаны Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".

Посьпех, здавалася, прадвызначаны. Прыклад паўночных суседзяў паказваў: рывок, штурм і . . .

x x x

. . . Расейская імперыя 1861 г. На Беларусі толькі запачаткоўвалася нацыянальнае адраджэньне, выйшлі першыя нумары "Мужыцкае праўды", нацыянальная інтэлігенцыя знаходзілася ў стадыі фармаваньня. Але вось разьвіты і арганізаваны рух Польшчы распачаў адкрытую барацьбу за свабоду і незалежнасьць. І яшчэ вельмі слабы беларускі рух быў пастаўлены перад дылемай: далучыцца да палякаў і разам зь імі дамагчыся свабоды, ці да часу ня ўвязвацца ў бойку і паступовай руплівай працай рыхтаваць глебу да сапраўды шырокага народнага выступу. Кастусь Каліноўскі абраў першы шлях.

"Ліст з-пад шыбеніцы" . . .

Штурмавы сіндром.

x x x

На адзіным подыху былі выйграныя вясновыя (1989) г. выбары ў Менску, Гомлі, Магілеве. Устаноўчы зьезд БНФ павінен быў стаць апошнім рыўком у штурме. Рэгістрацыя Фронту лічылася справай вырашанай.

Ды ня вырашылася.

Неадпаведнасьць вынікаў намаганьням трохі разгубіла. Але сілаў, імпэту хапала і на другі наступ. Эскалацыя мітынгаў. Посьпехі суседзяў – Прыбалтыкі, Украіны, Польшчы, Венгрыі – падхлёствалі. Ну, яшчэ крыху! Ну, апошні раз! Ну, зараз ці ніколі!

І так на працягу года.

x x x

Ад самага пачатку ў БНФ пачуўся масавы прыток людзей. Вакол ядра, зьяднанага агульнай ідэяй і ясным бачаньнем канчатковай мэты, пачалі гуртавацца людзі, зьвязаныя хутчэй ясным бачаньнем агульнага ворага. Пазбаўленыя нацыянальнай сьвядомасьці, яны пачуваліся "насельніцтвам Белорусской ССР", а не народам, і згодна з ужо амаль генетычнай звычкай спажывалі прынцыповыя ідэі толькі маскоўскага вырабу. Іх праграма–максімум не сягала далей дэмакратычных пераўтварэньняў, а ўжо нацыянальна–вызваленчая рэвалюцыя шмат для каго была амаль утопіяй. І на шыльдзе, адразу за якой мроіўся жаданы фініш гонкі, яны бачылі: "Выбары: вясна–90".

Вынікі першых выбараў, вынікі паўтарагадовых намаганьняў – некалькі тысячаў актывістаў і 40% прыхільнікаў сярод гарадзкога насельніцтва – падкасілі многіх, хто лічыў вырашальным менавіта гэты штурм.

Рыўкі, штурмы зьнясільваюць. Спрынтэры губляюць дыханьне, сыходзяць з дарожкі.

Бег працягваюць стаеры.

x x x

Штурм не атрымаўся. Трэба пераходзіць да спакойнай, планамернай, ~~працяглай асады. Але струк~~тура Фронту, разьлічаная на стыхійны штурм, у новых умовах можа апынуцца нядзеяздольнай. Дык ці ня варта нам, падводзячы першыя вынікі, скарыстацца з ужо створаных некалі формаў: перайсьці, нават за кошт памяншэньня колькасці шэрагаў, да больш жорсткіх структураў – з індывідуальным сяброўствам, з фіксаванымі складкамі, з канкрэтнай і абавязковай работай. Да таго, чым фактычна была ў свой час "Талака" (зразумела, на больш высокім якасным і колькасным узроўні) – да партыі.

Адсюль вынікаюць асноўныя для групаў падтрымкі БНФ накірункі дзейнасьці. Асьветніцкі: выданьне і распаўсюджаньне газэтаў, арганізацыя лекцыяў, курсаў, гурткоў і інш. Практычны: удзел у экалагічных талоках, збор сродкаў для патрэбаў камітэту "Дзеці Чарнобыля" – тут сфера працы самая шырокая. Прычым галоўная ўмова плёну гэтых работаў – іх рэгулярнасць. Карысны тут быў бы кантакт з Таварыствам беларускай мовы і Беларускім экалагічным саюзам, а лепей за ўсё – непасрэдная праца ў гэтых аб'яднаньнях, што будзе моцным імпульсам для іх радыкалізацыі. І яшчэ адная структура, стварэньню якой павінен паспрыяць і прыняць у ёй чынны ўдзел БНФ. Гэта – Беларускі дэпутацкі клуб, які згуртаваў бы ўсіх дэмакратычных дэпутатаў, праграсіўных вучоных і журналістаў, тым самым стаў бы мозгам руху і выпрацаваў дакладную і навукова абгрунтаваную праграму пераўтварэньня Беларусі ў незалежную, дэмакратычную, разьвітую еўрапейскую рэспубліку.

x x x

Падводзячы рахунак, трэба ня толькі азірацца назад.

Трэба глядзець наперад.

У канцы тунэлю – сьвятло.

Зянон ПАЗЬНЯК



# ГЛЁРЫЯ ПАТРЫЯ

Надта балесна чалавеку жыць успамінамі. Асабліва згадваючы пра добрае ды страчанае. Некалі любіў чытаць вершы хоку. Цяпер гартаю пажаўцелыя старонкі і знаходжу:

Ізноў шчыміць маё сэрца
па Вільні,
Па бедным маім юнацтве.
Сінія горы на гарызонце.

Але каму "баляць" тыя горы? Як кажуць, каму горы, каму стэп. У юнацтве перахварэў настальгіяй. А было так. Паехаў у Маскву. Ад тых мройных ,сініх, соснамі парослых віленскіх узгоркаў . . . Наглядзеўся я на тое маскоўскае азлабленьне, наслухаўся хамства, убачыў, што там людзі адзін аднаму не ўсьміхаюцца і ў вочы не глядзяць – і такі мяне апанаваў жахлівы смутак па Бацькаўшчыне, так занудзіўся, што перастаў я есьці і спаць. Усё цела знутры пачало балець, нібы пабітае. А ў вачах толькі ўзгоркі з касьцёламі ды жыта красуе пад імі хвалямі неасбяжнымі. Думаў, памру ад болю. Купіў я білет вечарам і паляцеў у Вільню.

Вось сонца заходзіць ліпнёвае, попельна тлеюць аблокі, мільгаюць унізе агні. Спускаецца самалёт, ашалела равуць рухавікі. Потым цішыня. Выйшаў і адразу адлягло, зьлягчэла, цяпло па ўсім целе разьлілося. Ціха вакол, вечарэе, і першыя конікі сакочуць у летняй траве, а ўдалечыні Вільня і вежы над сьпічастымі дахамі. І тут мне як хлынулі сьлёзы з вачэй. Памятаю – гэтакія гарачыя-гарачыя. Плачу і зьдзіўляюся, адкуль у чалавека гэтулькі сьлёз. Потым пайшоў пехам у горад па траве, па ходніках і бруку, ня чуючы вагі, гэтак стала лёгка. Найшчасьлівейшы дзень у жыцьці.

Прыйшоў на былую Людвісарскую, 9 у цэнтры старой Вільні і сеў пад вярбой насупраць мураванага двухпаверхавага дома, дзе некалі да вайны жыў мой дзед, бабуля, мой бацька. Побач меншы дамок, у ім знаходзілася друкарня "Беларускай крыніцы". Надышла ноч. Можна было пайсьці占 заначаваць да дзядзькі ці да сяброў, знаёмых. Але навошта, калі так цёпла на вуліцы, на душы і на сэрцы.

Сьвецяцца вокны ў старым доме. Нехта ж пасяліўся. Заходзіць ня буду, бо я там не жыву, бацька загінуў на фронце, дзеда ў 1939 закатавалі сталіністы–бальшавікі, бабуля памерла. Ды што дом – увесь горад ужо ня той. Перамяніліся людзі і вуліцы, надпісы і гаворка. Да вайны, здаецца, літоўцаў у Вільні было ня больш паўтара працэнта жыхароў. Цяпер, праз 50 гадоў, іх у горадзе ўжо ці не палова. Беларуска–польскую Вільню я яшчэ добра памятаю ў 50-х гадах. Зрэшты, калі б у 1939 года яна засталася б беларускай, ды была б адноўленая (што меркавалі) як сталіца Беларусі, ды разьмясьціўся б там ЦК КПБ з усімі сваімі аддзеламі ды функцыянерамі, дык ці засталося б тады што ад нашай прыўкраснай Вільні. Паразбуралі б касьцёлы, пазносілі б старыя вуліцы, паўзрывалі б помнікі культуры, усё згадзілі б, зьбэсьцілі, нават замкавую гару Гедыміна скапалі б чыноўнікі ад гарсавету і архітэктуры і ўтварылі б на яе месцы возера ці станцыю метро, як у Менску. Разбудавалі б Вільню на 2 мільёны жыхароў, наставілі б гігантаў вялікай хіміі, пасьсякалі б лясы, навезьлі б прышлай "рабочай сілы" і ганарыліся б брыдотай і дуратой.

І ўсё ж душа шчыміць. Шчыміць перад бацькаўскім домам. Нядаўна я даведаўся, што пасяліўся адзін час у ім годны чалавек і добры літовец Віргіліюс Чапайціс. Можа тады ў 60-х і сьвяціліся яго вокны ў нашым доме, калі ноччу сядзеў я насупраць пад вярбой, радасны і шчасьлівы. Цяпер Віргіліюс сакратар Праўленьня Сойму "Саюдзіса". Ён пераехаў у іншае месца. Дом пустуе.

Прыходжу сюды часта, калі бываю ў Вільні, дзе гучыць мне яе мелодыя – "Глёрыя Патрыя".

Стары дом на Людвісарскай.
Зацьвітае ля брамы вярба.
Я быццам там перад вайной.
Чую гукі фартэпіяна
І стрэлы ў грудзі –
маім радакам.
Чую ймшу у касьцёле
Сьвятога Яна
І крокі.
Выходзіць сьвятар Адам.
Нібы Богам абраны, –
Глёрыя Патрыя Рутэнія
Альба,
Глёрыя Патрыя Рутэнія
Альба! –
Урачыста гудзяць арганы.
Кроў на бруку,
у цэлях,
на пяску,
на каменьнях –
Мая кроў.
Наша кроў
З апусьцелага дома
на Людвісарскай,
Дзе гучэла фартэпіяна:
Глёрыя Патрыя Рутэнія
Альба!..
Падаюць кроплі на шлях –
Гарачыя кроплі з дрэў,
Што праводзілі нас
у катоўні ў Сібір.
Прывітаная будзь, Марыя,
поўная Ласкі.
Прывітаная будзь
Над маёй старанай!...
Перад домам старым
Зацьвітае вярба.
Глёрыя Патрыя Рутэнія
Альба!
Перад домам старым
Толькі постаць мая.
Глёрыя Патрыя Рутэнія
Альба!
Перад домам старым
Прагрымела вайна,
Перад домам старым
Прагрымела вайна . . .
Глёрыя Патрыя . . .

Вільня мяняецца. Адыходзяць людзі, паміраюць вядомыя беларусы. Заканчвае стагодзьдзе свайго жыцьця Зоська Верас, спадарыня Людвіка Сівіцкая–Войцік; памёр Янка Шутовіч. Сірацее наш віленскі быт. Памятаю гадоў пяць назад ранак на Антокалі. Тады запісаў:

Холадна ўсход ружавее.
Мароз.
Абсыпаецца шэрань з галін.
Патухаюць лятарні.
Уздымаецца сонца –
малінавы шар,
Асьвятляе сьнягі на дамах.
Лунае туман над Вяльлёй.
Вось каменныя львы
сьцерагуць уваход.
Прыпыняюся.
Міма іду,
Азіраюся ўсьлед
на вакно мастака –
Сергіевіча
ўжо няма.

Нічога нельга параўнаць з Вільняй. Калі хочаш пазнаць беларускую народную душу, тады едзь у гэтую крывіцкую Мэкку, як сказаў наш слаўны паэт Уладзімір Жылка. Пахадзі па яе вулках і касьцёлах, ля рэчак і па ўзгорках, тады і даведаешся. І параўнаеш з сабой, бо адчуеш нешта роднае і будзеш успамінаць, ці ня бачыў ты гэта ў сьне. Кожны народ асабліва асвойвае прастору, мае сваю пластыку ў руху, мелодыю ў мове, рытм у гаворцы. А ўсё гэта разам – музыка, што выяўляецца ў архітэктуры. Паслухайма, як гучыць Ганна. Сьвятая музыка, боская і чалавечая, увабрала ў сабе вятры і сьпевы Віленшчыны. Паслухайма, як сьпявае Вільня ў вежах і мурах, калі грымотна праносіцца навальніца над вуліцамі і ўсьпененай Вяльлёй. Даўно–даўно мне запомніўся такі дзень. Тады запісаў:

Бачу мокры брук праз вакно,
Адпрасаваны падковамі
коней
І ступенямі продкаў.
Бачу чырвоныя камяні.
Стагодзьдзі хлістаў па іх
дождж
І бег струмень
Ад Вострай Брамы аж да
Катэдры.
Стагодзьдзямі цёк струмень
людзкі . . .
Прайду і я гэты шлях,
як рытуал,
Памятаючы пра ўсё.

Віленскую Кальварыю бальшавікі зачынілі пасьля вайны. Абязьлюдзелі сьцежкі–дарожкі, зьніклі паломнікі. Ідзеш у цішыні і слухаеш свае крокі. Чаўпецца нешта ў такт хады.

Шлях апусьцелы,
Векавы,
Да звону ўбіты
Хадакамі.
І абламаны торс
Сьвяты
З паабсяканымі
Рукамі.
Бягуць гады,
Дзесяцігодзьдзі . . .

Хопіць, зрэшты, хопіць. Пэўна ад Вільні кружыцца мне галава. Ды баюся, што толькі мне. Сады і паркі, сасновыя схілы, булькоча ўнізе Віленка. Памятаю ж яе чыстай у ваколіцах Вільні.

Ноч засьпела ў дарозе мяне
пехатой.
Тарахценьне калёс. Галасы
ў цемнаце.
Папрасіць, каб падвезьлі,
ці што?

Валуны, крушні ўздоўж дарог. Расказжа дзядзька дасканала на беларускай добрай віленскай гаворцы, дзе па каменьнях Бог ступаў, дзе Езус Хрыстус сьлед пакінуў.

Адбітак ступні на граніце.
Узьляцеў матылёк.
А некалі шэры лішайнік
і гэты камень
зьесьць.

У Вільні свабодна. Праўда, летам бывае тлумна. Зімовая Вільня непаўторная. Можаш ісьці па старым месьце і доўга не спаткаеш чалавека. Ніхто нікуды не сьпяшае.

Засьнежаны парк.
Па дарожцы бязьлюднай
Хлопчык ідзе.

У старой Вільні кожны камень дыхае беларускай гісторыяй. Вось дом, дзе жыў Сыракомля. Вось тут была рэдакцыя "Нашае Нівы", там жылі Луцкевічы, далей Беларуская гімназія, друкарня імя Францішка Скарыны, тут Базыльянскі кляштар, там схапілі Каліноўскага, тут выступаў беларускі дзіцячы тэатр Станіславы Корф, там храм, дзе сьвятараваў Адам Станкевіч, тут мясьціліся беларускае выдавецтва, там бібліятэка . . .

О, Вільня, як жывіш ты маё
сэрца!
У час спатканьня іду
на пляц.
Вось мур,
Дзе апошні позірк
Каліноўскага.
Доўга гляджу,
Каб панесьці з сабой у душы.

Вершы 1986 г.

**Фота Кастуся Войткі.**

# 2 ДНІ Ў ВІЛЬНІ

## У СУВЯЗІ З ЗАЯВАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ БССР ПАМІЖ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ" І "САЮДЗІСАМ" АДБЫЛІСЯ ДВУХДЗЁННЫЯ ПЕРАМОВЫ

Вінцук ВЯЧОРКА

У дарозе прыгодаў не было. Ані табе мытні (таможні), ані ўзброеных узьмежнікаў. Хіба патруль на вакзале.

Праўда, потым сёе-тое давялося пабачыць. На мітынг за незалежнасьць Літвы ў парку Закрэт (зараз Вінгіс) прыйшло трыста тысяч віленчукоў і прыезджых. Сем'ямі, як на сьвята. Мора сьцягоў, найбольш – літоўскіх, тады – беларускіх; прамовы – палкія і годныя. Прамаўляе Старшыня Найвышэйшае Рады Літоўскае Рэспублікі Вітаўтас Ландсбергіс. Раптам з-за дрэваў вылятаюць вайсковыя шрубалёты (былыя "афганцы" засьведчылі, што баявыя), завісаюць на вышыні мэтраў 30–40, равуць, гоняць вецер і вывальваюць на галовы дарослых і дзяцей кучу друкаванае прадукцыі. Ураджаньне зь цяжкіх: адразу прыгадваеш, як нэрвуюцца людзі і жывёлы падчас сонечнага зацьменьня. Міжволі да горла падступае хваля нянавісьці да гэтае брутальнай і тупой сілы.

Мітынг вырашыў паперкі сабраць (не пакідаць жа ў парку горы сьмецьця!) і вярнуць назад, у КПСС.

Прамаўляў Пазьняк. Калі выйшаў, насьцярожыліся: пра заяву Прэзідыуму Вярхоўнага Савету БССР з патрабаваньнем Вільні і Віленскага краю ўсе ведаюць, а на падыходах да парку маладыя людзі – у адказ на тую заяву – жвава прадавалі факсімільныя выданьні даваенных мапаў, дзе Літва – у межах паводле ўгоды 1920 году паміж Літвой і Савецкай Расеяй, зь Лідай і Ашмянамі, і яшчэ прырэзаны ладны кавалак "этнічнае Літвы" да самага Менску. Справакаваная картаграфічная вайна, а яна ніколі не бывае бяскрыўдная. Варожасьць або нават узаемная падазронасьць паміж суседнімі народамі надзейна блякуе тое, што сапраўды найбольш патрэбна гэтым народам – нацыянальна-культурную працу сярод суайчыньнікаў на ўзьмежных тэрыторыях.

Мноства нашых сьцягоў, Пазьняковы словы салідарнасьці напругу трохі зьнялі, літоўцы, у тым ліку тэлегледачы, пераканаліся, што беларусы ў цяжкую хвіліну ім не ўсадзілі нож у сьпіну. Аднак, як мне падалося, "не пайшла" стрыжнёвая думка Пазьняка пра будучую асацыяцыю дзяржаваў ад Эстоніі да Украіны. І – таму, што на мітынгу канцэптуальную думку не заўсёды ўспрымаюць, і – галоўнае – таму, што літоўцы жывуць толькі незалежнасьцю, і ім пакуль не ў галаве, што і справу Віленшчыны гэтак вырашаць прасьцей, і ад розных суседніх драпежнікаў ратавацца лягчэй гуртам. Пакуль – ім хапіла аднаго Саюзу, каб трапіць у яшчэ нейкі.

Але да такой асацыяцыі нас штурхае само жыцьцё – і эканамічныя сувязі, і дапасаванасьць рынкаў, і гістарычная традыцыя. А галоўнае, згуртаваньне Цэнтральна-Усходняе Эўропы было б надзейнаю процівагай якім хаця імперскім замахам. Таму Масква імкнецца закласьці чым паболей мінаў на абшарах патэнцыяльнае асацыяцыі – пасеяць насеньне будучае сварбы між народамі.

Пра адну з такіх мінаў – памянёную заяву дземяньцейска-сакалоўскага Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР – дэлегацыя фронтаўскіх дэпутатаў і кіраўніцтва БНФ вяла двухдзённыя перамовы ў Вільні, вынікам якіх, паміж іншага, стала сумесная заява, што друкуецца побач. Ад віленскіх беларусаў у спатканьні браў удзел Валянцін Стэх. Двойчы былі працяглыя гутаркі са спадаром Ландсбергісам.

Мяркую, што лепш за М.Дземяньцея ведаю этнічную гісторыю Вільні і Віленшчыны. Калісьці балтамоўны, гэты край спрадвеку пераходзіў на беларускую мову. Праблема ў тым, што сотні тысяч беларусаў Віленшчыны – каталікоў, якія адказвалі ў Х1Х стагодзьдзі на пытаньне "Хто ты?" – "Тутэйшы чалавек, а веры польскай", – гэтак і цяпер кажуць: "Паляк, а мова тутэйшая, простая". Дарма што ўпарадчык нашае граматыкі Браніслаў Тарашкевіч родам з падвіленскіх Мацюлішак. З афіцыйнае статыстыкі таму як бы і не вынікае, што беларусы на Віленшчыне пераважаюць; большасьць – гэтак званыя пашпартныя палякі. Этнічных палякаў амаль няма, бо гісторыя іхніх масавых перасяленьняў сюды ня ведае.

Калі Вільню ў 1939 годзе ўключылі ў склад БССР, камуністы пасьпелі скласьці чорныя сьпісы віленскіх беларускіх дзеячоў. Потым Віленскім краем Масква расплацілася зь Літвой за яе акупацыю Чырвонай Арміяй, а потым – і за стварэньне "Літоўскай ССР". Тады беларушчыну вычысьцілі зь Вільні грунтоўна: не засталося інтэлігенцыі – яе зьнішчылі фізічна; скасавалі школы, музэй зь бібліятэкай, перыёдыку. Пасьля гэтага ўрад БССР цалкам забыўся на лёс беларусаў у Вільні і краі.

Вільню пачалі засяляць літоўцы (іх цяпер тут каля паловы). Тое, што па статыстыцы беларусаў у краі няшмат, дазваляла камуністычным лідэрам Літвы ігнараваць праблему цалкам, пакідаючы мясцовым беларусам – "палякам" магчымасьць вучыцца ў расейскіх школах.

Літоўцы, пачынаючы зь Х1Х ст., у гістарычных нарысах, у школьных падручніках абміналі беларускі характар ці прынамсі беларускі складнік Вялікага Княства Літоўскага, беларускасьць ці хаця шматкультурнасьць Вільні. Гэта можна зразумець: невялікай нацыі дзеля адраджэньня патрэбныя героі і дзяржаўныя ідэалы даўніны. Але ў выніку гэтага сярэдні літовец ані ўяўляе, што Беларусь мае непасрэднае дачыненьне да гісторыі Літвы і нейкі інтэрас у Вільні.

Заява Прэзідыума Вярхоўнага Савету БССР нагадала літоўцам, што беларуская праблема Віленшчыны існуе, але ж надзвычай істотна было своечасова павесьці канструктыўны дыялёг зь Літвой. М.Д.Дземяньцей зь ёй гутарыць не зьбіраецца, таму бараніць інтарэсы Беларусі і беларусаў, ня сварачыся зь Літвой, на запрашэньне парламенцкай групы Саюдзіса рушылі мы.

Значны крок – гэта згода, што справа Віленшчыны ёсьць справаю толькі двух народаў, як спрадвечных на гэтай зямлі. У расейскім варыянце тэксту заявы літоўцы пагадзіліся (упершыню!) пісаць гэтак: Вильнюс (Вильня), Вильнюсский (Виленский) край. Вырашылі стварыць сумесную падручнікавую камісію дзеля аб'ектыўнасьці навучаньня гісторыі і культуры. Паставілі пытаньне пра беларускую мову ў касьцёлах краю (нас горача падтрымаў сп. Ландсбергіс). Прысьпешылі пошук памяшканьняў для беларускіх таварыстваў. Вырашылі распачаць сумеснае пэрыядычнае выданьне – як культурны мост паміж спрадвечнымі суседзямі (можа, далучацца ўкраінцы), а таксама спаткацца трохбакова – з украінцамі, як нашчадкі Вялікага Княства Літоўскага.

Дэпутат Літвы, былы народны дэпутат СССР Казімерас Уока, той самы, што "пакрыўдзіў" Гарбачова, выдаў шыкоўную прапанову стварыць (ці то адрадзіць) віленскую Беларускую друкарню імя Францішка Скарыны, якая будзе друкаваць, як і калісьці, беларускую перыёдыку, кнігі ды падручнікі. Рэалізацыя ідэі пачалася.

На вялікім мітынгу прамаўляў у падтрымку Літвы Юры Афанасьеў, лідэр Міжрэгіянальнае дэпутацкае групы (МГД) ў Маскве. Праграма "Время" пра ягоны ўдзел змаўчала. Былі траістыя перамовіны: Ландсбергіс і "Саюдзіс" – МДГ (Афанасьеў і Мурашоў) – БНФ.

МДГ, паводле Мурашова, скурчваецца кольказна. Калі раней дэпутатаў гуртавала барацьба за адмену 6-га артыкула Канстытуцыі,і налічвала група 393 чалавекі, дык зараз вызначальнае ідэі няма, група раскалолася па адносінах да Гарбачова (якія ў многіх набылі рэлігійны характар, сталі пытаньнем веры).

МДГ пажынае плады таго, што не зважала на імперскасьць Савецкага Саюзу: дэпутаты з рэспублік жывуць ідэяй незалежнасьці, а Расея так і не стварыла масавы і згуртаваны дэмакратычны народны рух. Гэта – вынік імперскіх забабонаў у часткі тамтэйшага грамадзтва. Афанасьеўская ідэя круглага стала з уладамі " не пайшла", гэта днямі прызнаў і Мурашоў у інтэрвію "Свабодзе". Сапраўды, народы ёю не згуртаваць. Уявіце сабе круглы стол Пазьняка з Сакаловым.

Мне даспадобы Ландсбергісава: "Мы давадзім ПЕРЕСТРОЙКУ да канца, а нас абвінавачваюць, быццам мы яе ворагі". Дайшлі да згоды, што неабходна правесьці круглы стол дэмакратычных рухаў СССР ("Саюдзіс", натуральна, будзе назіральнікам). Падобна, Ландсбергіс разумее, што ратунак Літвы у тым, каб яе прыклад перанялі іншыя рэспублікі. Як цяпер лічыць Афанасьеў, гуртавальная і галоўная ідэя такога спатканьня – ператварэньне Савецкага Саюзу ў суіснаваньне дэмакратычных незалежных дзяржаваў.

Апошняе. Калі стала вядома, што савецкія войскі чарговы раз спрабавалі "узяць" Дом друку, туды сабраліся інваліды: сячыце, маўляў, лапаткамі. А ў Найвышэйшай Радзе Літвы – нармалёвыя людзі з нармалёвымі, не чыноўнымі абліччамі. Стары апарат ня робіць. Ахвярна, за так працуюць новыя людзі: маладзейшыя, старэйшыя.

## СУМЕСНАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ ЗАЯВА ГРУПЫ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКІ АД ЛІТОЎСКАГА РУХУ ЗА ПЕРАБУДОВУ "САЮДЗІС" І ДЭЛЕГАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ"

Зважаючы на тое, што 11-га сакавіка 1990 г. Вярхоўны Савет Літвы абвясьціў аднаўленьне Літоўскай дзяржаўнасьці;

што кіраўніцтва СССР ігнаруе ўніверсальнае права нацыяў на самавызначэньне;

што яно выкарыстоўвае ў дачыненьні да Літвы сродкі ваеннага і палітычнага націску, у тым ліку сілу дзеля захопу жыхароў Літвы і грамадзкіх будынкаў, а таксама пагрозу тэрытарыяльнай цэласнасьці Літвы, ігнаруючы Гельсінскі прынцып недапушчальнасьці гвалтоўнай зьмены дзяржаўных межаў;

што Прэзідыум Вярхоўнага Савету БССР 29-га сакавіка 1990 г. запатрабаваў Вільню і прылеглыя тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі;

што на Беларусі яшчэ пануе каманда-ва-адміністрацыйная сістэма, якая абапіраецца на манаполь улады КПСС;

што на Беларусі пашыраецца ўсенародны рух за правы чалавека і нацыі, за дэмакратыю і дзяржаўную незалежнасьць;

што ў Вярхоўным Савеце БССР сфармавалася група дэпутатаў, якая стаіць на платформе Беларускага Народнага Фронту, а дэпутаты ад "Саюдзіса" ў Вярхоўным Савеце Літвы здабылі большасьць;

што народы Літвы і Беларусі на працягу стагодзьдзяў мелі гістарычна-палітычныя, этнакультурныя, эканамічныя сувязі і традыцыі мірнага сужыцьця;

што горад Вільня ад часоў Вялікага княства Літоўскага быў палітычным і культурным цэнтрам абодвух народаў;

што Віленскі рэгіён з даўных часоў быў зонай пражываньня і этнічных кантактаў беларусаў і літоўцаў;

што жыхары Віленскага рэгіёну паабапал сучаснай мяжы між Літвой і Беларусьсю адчувалі і адчуваюць цяжкасьці ў акрэсьленьні і захаваньні сваёй нацыянальнай прыналежнасьці з прычыны паланізацыі і русіфікацыі, якая праводзілася доўгі час у мінулым;

што трэція сілы неаднойчы спрабавалі выкарыстаць асаблівасьці Віленскага рэгіёну у сваіх інтарэсах, што стварыла зону палітычнай напружанасьці і нестабільнасьці ня толькі тут, але і ў маштабе Цэнтральнай Еўропы;

што менавіта такія дзеяньні, якія правакуюць сёньня стварэньне крыніцы напружанасьці ў гэтым рэгіёне, могуць узбудзіць міжнацыянальныя канфлікты і стаць нагодай ваеннага ўмяшальніцтва;

што БНФ "Адраджэньне" 3-га сакавіка 1990 г. ацаніў заяву Прэзідыуму Вярхоўнага Савету БССР як палітычны шантаж у адносінах да Літоўскай Рэспублікі –

### ЗАЯЎЛЯЕМ:

1. Спробы блакіраваць рэалізацыю права на самавызначэньне накіраваныя супраць правоў і жыцьцёвых інтарэсаў усіх народаў СССР.

Прад'яўленьне тэрытарыяльных патрабаваньняў можа нанесьці паважную шкоду стабільнасьці палітычных працэсаў у Цэнтральнай Еўропе.

2. Камуністычнае кіраўніцтва як былой Літоўскай ССР, гэтак і Беларускай ССР ня толькі не вырашыла сьпецыфічныя этнамоўныя, сацыяльна-эканамічныя ды іншыя праблемы Віленскага рэгіёну, але яшчэ і паглыбіла іх. Гістарычныя перспектывы літоўскага і беларускага народаў на гэтых тэрыторыях Літвы і Беларусі павінны быць заканадаўча гарантаваныя з абодвух бакоў. Такія гарантыі ў поўнай меры могуць забясьпечыць толькі суверэнныя і дэмакратычныя дзяржавы Літвы і Беларусі.

3. У сістэме гарантыяў нацыянальным групам а абодвух бакоў мэтазгодна прадугледзець стварэньне і падтрымку школаў, друку, радыё- і тэлепраграмаў, нацыянальна- культурных цэнтраў і таварыстваў. Для гэтай мэты неабходна стварыць зьмешаныя эксьпертныя камісіі, заснаваць літоўска-беларускае і беларуска-літоўскае культурныя таварыствы, сумесныя перыядычныя выданьні.

4. Абодва бакі павінны паклапаціцца, каб новая палітычная сітуацыя ў Літве і пазіцыя кіраўніцтва Беларускай ССР не пашкодзілі эканамічным, культурна-палітычным дачыненьням паміж літоўскім і беларускім народам і каб новыя магчымасьці выкарыстоўваліся ў поўнай меры дзеля дабра абодвух народаў.

| Ад "Саюдзіса": | Ад БНФ "Адраджэньне": |
|---|---|
| *В.Чапайціс,* | *З.Пазьняк,* |
| *Г.Ілгунас,* | *А.Трусаў,* |
| *А.Шыменас,* | *В.Голубеў,* |
| *В.Павілёніс,* | *Ю.Хадыка,* |
| *Г.Сангайла.* | *А.Марачкін,* |
| | *В.Вячорка.* |



Вільня, 14 красавіка. Фота Уладзімера Кармілкіна.

# БЕЛАСТОЧЧЫНА -- ПОЛЬШЧА -- «С»



**10 лютага 1990 года беларусы Польшчы заснавалі ўласную партыю – Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне (БДА). Сёньня гэта адзіны ясна выказаны рух нацыянальных меншасьцяў ва ўсёй Польшчы.**

**Нядаўна ў Менску пабывалі прадстаўнікі БДА Алег ЛАТЫШОНАК і Яўген ВАПА, якія прыяжджалі з мэтай усталяваць кантакты зь Беларускім Народным Фронтам. Гутарку зь імі прапануем чытачам "Навінаў".**

**"Навіны": Узьнікненьне БДА зьвязана зь перамогай "Салідарнасьці", або партыя была б утвораная ў кожным выпадку?**

**Яўген Вапа:** Перамены, прынесеныя "Салідарнасьцю" і праўда падштурхнулі абуджэньне беларускага палітычнага патэнцыялу. Але ня гэта галоўнае. Палітычная барацьба ў Польшчы паказала, што мы ніяк ня здолеем уплываць на будучыню беларускае меншасьці, калі ўжо зараз выразна не абазначым свае інтарэсы і мэты ў польскай палітыцы, калі ня будзем мець уласнай палітычнай рэпрэзэнтацыі. Апрача таго, беларусы – адзіная меншасьць у Польшчы, якая жыве ў сваім уласным этнічным арэале і таму мае магчымасьць дамагацца парламенцкіх месцаў сваімі сіламі.

Ужо пад час чэрвеньскіх выбараў 1989 году ў Польшчы ўзьнік Беларускі палітычны клуб, які меўся быць школай палітычнага думаньня і дзеяньня. Спачатку меркавалася толькі аналізаваць сітуацыю і ўзьдзейнічаць на яе шляхам пашырэньня ўласнай палітычнай думкі. Клуб задумваўся на некалькі гадоў працы. Але падзеі разьвіваліся гэтак хутка, што ад моманту ўзьнікненьня клуба да моманту практычнай палітычнай дзейнасьці прайшоў усяго месяц. На выбарах клуб выставіў сваіх кандыдатаў: у Сэнат – Сакрата Яновіча і ў Сэйм – Яўгена Мірановіча. Яны ішлі пад дэвізам: "Беларусы! Будзем гаварыць самі пра свае справы!" Мы мусілі выкарыстаць гэты шанц, хаця ведалі, што нашыя кандыдаты ня мелі ніякай магчымасьці перамагчы: галасаваньне адбывалася ў маштабе цэлага ваяводзтва, дзе беларусаў усяго 1/3; канструкцыя акругаў была гэткая, каб усё было перамешана, каб выбаршчыкі-палякі ўраўнаважвалі выбаршчыкаў-беларусаў.

**Алег Латышонак:** Дык можа пачнем тады ад самага пачатку. Фактычна наш рух існуе ўжо 10 год. Беларусы ў Польшчы пачалі абуджацца да палітычнага жыцьця ў 1980 годзе, калі ўзьнялася "Салідарнасьць". Свае структуры спрабавалі тады стварыць і "старэйшыя" і "маладзейшыя". Гэтак былі заснаваныя Таварыства аховы помнікаў беларускай матэрыяльнай і духоўнай культуры і Беларускае аб'яднаньне студэнтаў (БАС) у Варшаўскім унівэрсітэце, але ім было адмоўлена ў дзяржаўнай рэгістрацыі.

Пасьля ўвядзеньня вайсковага становішча ўся нашая дзейнасьць наогул магла зводзіцца толькі да нелегальнага друку. Было створанае незалежнае падпольнае выдавецтва, праз якое друкаваліся зборнікі дакументаў і брашуры. Гэтак выйшлі зборнікі "Беларускія дакументы" (чатыры нумары) і "Архіўны сшытак", брашуры "Думкі пра аўтаномію", "Беларуская мова ў царкве", "Сказ пра Лысую гару", "Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна" і інш. Студэнты, пакуль БАС быў забаронены, вялі афіцыйную дзейнасьць праз Польскае згуртаваньне студэнтаў у Радзе культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасьці, выдавалі часопіс "Сустрэчы". Нарэшце ў 1987 годзе ў Бельску-Падляскім адбыўся зьезд беларускіх студэнтаў, які запачаткаваў стварэньне ўласнай арганізацыі. У 1988 годзе БАС быў зарэгістраваны. У канцы 80-х гадоў узьніклі яшчэ два новыя выдавецтвы – "Імя Ігнатоўскага" і "Бераг".

**"Навіны": Якая структура новай партыі? Колькі сяброў?**

**Я.В.:** БДА адрозьніваецца ад чыста палітычных партыяў. Мы не прэтэндуем на вялікую ўсяпольскую палітыку. Найважнейшае для нас – абараняць інтарэсы меншасьці. БДА створана на ўзор амерыканскіх партыяў, якія самі ня ведаюць, колькі ў іх сяброў. Галоўная Рада, старшынём якой абраны Сакрат Яновіч, акрэсьлівае палітыку партыі, а рэалізуе яе Управа, каардынатарам якой абраны Віктар Стахвюк. Гэта прыклад выбарчай партыі. Няма ніякіх партбілетаў і акрэсьленых складак. Дастаткова, каб той, хто далучаецца да нас, дакляраваў, што падтрымлівае нашыя ідэі і хоча быць сябрам партыі. Але ёсьць пункт, што сябра БДА ня можа належаць да іншай партыі. Партыя ня мае ніякай ідэалогіі, у тым сэнсе, да якога мы прывыклі за гады панаваньня камунізму.

**"Навіны": Але ў чым усё ж сутнасьць беларускай палітычнай ідэі ў Польшчы?**

**А.Л.:** Нармальнасьць. Папросту нармальнасьць. Мы хочам і марым пра тое, каб мы ўспрымаліся як нармальныя грамадзяне, каб наш рух успрымаўся як нармальная частка польскай палітычнай сітуацыі. На жаль, такога прызнаньня пакуль няма. Гэта ня значыць, што ідзе нейкая варажнеча. Проста палякі маюць свае вялікія справы, а мы – свае. І яны нас не заўважаюць. У гэтай сувязі мы бачым ролю БДА ў тым, каб правесьці нашую меншасьць праз працэс цяперашніх бурных пераменаў, нават магчымых лакальных канфліктаў, каб дайсьці нарэшце да спакойнага порту нармальнасьці. Гэта запатрабуе ня толькі часу, але і вялікай працы, як з боку беларусаў, гэтак і палякаў.

**"Навіны": Да апошняга часу палякі стэрэатыпна ставіліся да беларускага пытаньня як да сіноніму камунізму.**

**А.Л.:** Так і зараз ставяцца на Беласточчыне. Не пасьпела ўзьнікнуць нашая партыя, як нас адразу абвінавацілі ў камунізме. У сьвядомасьці беластоцкіх "тутэйшых палякаў" беларус – гэта камуніст. Як гаворыць жартам Сакрат Яновіч (і ў гэтым жарце шмат праўды), беларусаў скамунізавалі самі палякі.

**Я.В.:** Фактычна з 1944 да 1950-х гадоў на Беласточчыне існаваў рэальны беларуска-польскі канфлікт, які часам насіў нават узброены характар. Армія Краёвая рабіла ўзброеныя напады на беларускія вёскі, каб змусіць беларускае насельніцтва да ўцёкаў на Беларусь. Каб абараніцца ад гэтых нападаў, беларусы ішлі ў міліцыю, падтрымлівалі дзеяньні новай улады. Гэтак яны ў нейкай ступені сапраўды сталі апорай камунізму на Беласточчыне. Тут быў двухбаковы інтэрас з боку г. зв. "народнай улады" і беларускай меншасьці. Як меншасьць, беларусы мусілі супрацоўнічаць з уладай і не маглі дазволіць сабе канфлікт, а накінутая звонку камуністычная ўлада, якая ня мела падтрымкі польскага грамадзтва, шукала хоць нейкага апірышча. З часам многія важныя пасады на Беласточчыне ўзялі беларусы. Але беларусамі яны толькі называліся і нічога не рабілі дзеля беларускай справы, дзеючы толькі ў імя інтарэсаў цэнтральнай камуністычнай улады. Так што хаця фармальна беларуская меншасьць і мела вялікі ўплыў ва ўладах Беласточчыны, то было не на карысьць меншасьці.

**"Навіны": Якія цяпер дачыненьні паміж камуністамі і беларускім рухам у Польшчы?**

**А.Л.:** У нас ужо няма камуністаў, так што няма і дачыненьняў. "Недабіткі" з камуністычнага апарату спрабуюць стварыць Сацыял-дэмакратыю Рэчы Паспалітай, але яны маюць усяго 5 тыс. прыхільнікаў у цэлай Польшчы. На беларускай тэрыторыі іх таксама ніхто ня хоча падтрымліваць. Напрыклад, у Гайнаўцы такіх сацыял-дэмакратаў сабралося ўсяго 14 асобаў.

**"Навіны": Як да БДА ставіцца "Салідарнасьць?"**

**А.Л.:** Гэта вельмі складаная праблема. Мы разумеем, што самое ўзьнікненьне легальнага беларускага руху сталася магчымае дзякуючы пераменам, за якія змагалася "Салідарнасьць". Так яно ёсьць у агульнапольскім маштабе. Да нас, як і да ўсіх меншасьцяў, "Салідарнасьць" праграмна ставіцца прыхільна. Але трэба разумець, што "Салідарнасьць" – гэта рух, які аб'ядноўвае мноства розных плыняў і падзяляецца тэрытарыяльна. Прыкладам, варшаўская і гданьская "Салідарнасьць" ставіцца да нас прыхільна, затое беластоцкая ці "тутэйшая" – відавочна варожа.

**Я.В.:** Канфлікт разьвіваецца ў лакальным маштабе. Беларуская меншасьць не прызнаецца на Беласточчыне наогул, як нацыя. Беларусаў лічаць "праваслаўнымі палякамі" або "апалячанымі расейцамі". Прычым такія ўяўленьні існуюць у самім кіраўніцтве беластоцкай "Салідарнасьці". Адстойваючы свае інтарэсы, мы мусім зьвяртацца да Варшавы, каб яна ў сваю чаргу ўплывала на Беласток. Дзеля аб'ектыўнасьці трэба сказаць, што БАС сустракаўся з прадстаўнікамі маладой генерацыі беластоцкай "Салідарнасьці". Не абцяжараныя, так бы мовіць, псыхалагічнымі комплексамі, яны паставіліся да нас станоўча, але ня маюць вырашальнага ўплыву.

**"Навіны": Ці новая беларуская партыя карыстаецца рэальнай грамадзкай падтрымкай? Ці мае нейкі механізм, каб стаць раўнапраўным партнёрам з той жа беластоцкай "Салідарнасьцю"?**

**Я.В.:** Стан палітычнай і нацыянальнай сьвядомасьці насельніцтва Беласточчыны вельмі нізкі. У параўнаньні зь міжваенным перыядам наступіў відавочны рэгрэс. Усё гэта вельмі цяжка адбудоўваць. Але з пэўнага часу пачаў заўважацца стыхійны рост сьвядомасьці. І мы хочам накіраваць яго ў мірнае цывілізаванае рэчышча. Пакуль мы ня ставім пытаньне пра аўтаномію, бо мяркуем, што заканадаўства пра тэрытарыяльнае самакіраваньне і правы нацыянальных меншасьцяў будзе даволі дэмакратычнае і фактычна загарантуе нам аўтаномію. Таму на сёлетніх травеньскіх выбарах у мясцовыя органы самакіраваньня мяркуем актыўна змагацца за ўладу на "гмінным узроўні". Рух мае магчымасьць афіцыйна дзейнічаць толькі год. І гэтага замала, каб рабіць упэўненыя прагнозы.

**Управа Сойму Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"**

**ДЭКЛЯРАЦЫЯ**

Управа Сойму Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", прааналізаваўшы пагрозьлівы стан, у якім апынулася карэннае беларускае насельніцтва Беласточчыны на сваіх спрадвечных землях з прычыны антыбеларускай палітыкі былых уладаў у Польшчы, цалкам ухваляе і падтрымлівае арганізацыю ды праграмныя накірункі дзейнасьці Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня, скіраваныя на абарону нацыянальнага жыцьця, прыроды, правоў чалавека, рэлігіі, гаспадаркі і культуры беларусаў Беласточчыны. Мы заклікаем вядучыя палітычныя сілы Польшчы падтрымаць партыю, якая адстойвае інтарэсы нацыянальнае меншасьці. Гэта надта істотна з увагі на няпростую гісторыю дачыненьняў нашых двух народаў, на эканамічнае становішча ды нацыянальна-культурныя праблемы Усходняе Беласточчыны.

Управа Сойму БНФ дэкляруе, што усе перамовіны з польскімі урадавымі ды палітычнымі арганізацыямі на тэмы, якія датычаць інтарэсаў беларусаў у Польшчы, БНФ будзе весьці у паразуменьні зь Беларускім Дэмакратычным Аб'яднаньнем.

Управа Сойму БНФ лічыць, што сэнс будучых узаемадачыненьняў беларускіх і польскіх дзяржаўных і палітычных структураў будзе шмат у чым залежаць ад свабоды дзейнасьці БДА і ад паляпшэньня становішча беларусаў на Беласточчыне.

*Старшыня Сойму БНФ*
**Зянон Пазьняк**

*Сакратар Управы БНФ*
**Вінцук Вячорка**

**Менск, 5 сакавіка 1990 г.**



ЛЮДЗІ БЕЛАРУСІ!

ЗАПАЛІМ СЬВЕЧКІ ЗА НАШУ ВЕЧНАСЫЦЬ!

У ЖАЛОБНЫМ МАЎЧАНЬНІ СХІЛІМ ГАЛОВЫ ПЕРАД АХВЯРАМІ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ РАДЫЯЦЫІ, ЗАДУМАЕМСЯ НАД ЛЁСАМ БЕЛАРУСІ, ЯКАЯ САМА СТАЛА АХВЯРАЙ.

26 КРАСАВІКА, У ДЗЕНЬ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЕДЫІ, НА ПЛЯЦЫ ВОЛІ Ў МЕНСКУ АДБУДЗЕЦЦА НАБАЖЭНСТВА, КАЗАНЬ І МАСАВАЕ ГРАМАДЗКАЕ МАЛЕНЬНЕ ЗА ВЫРАТАВАНЬНЕ, ЗДАРОЎЕ І БУДУЧЫНЮ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ.

ПАЧАТАК А 19.00.

Управа Сойму БНФ, група народных дэпутатаў БССР і Менгарсавету.



*Першаму сакратару ЦК КПБ Я.Сакалову*
*Старшыні Прэзыдыуму Вярхоўнага Савету БССР М.Дземянцею*
*Старшыні Савету Міністраў БССР М.Кавалёву*

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

7 сьнежня 1989 і 3 студзеня 1990 года ЦК КПБ і Саўмінам БССР былі прынятыя пастановы па арганізацыі перасяленьня ў першым квартале гэтага года жыхароў Гомельскай і Магілёўскай абласьцей з зоны радыяцыйнага забруджаньня, дзе шчыльнасьць радыяактыўнасьці па цэзію–137 складае больш 40 Кюры на км кв.

Што ж вамі зроблена дзеля выратаваньня людзей ад павольнай сьмерці, ад нараджэньня надалей непаўнавартасных дзяцей, ад распаўзаньня радыяцыі па ўсёй Рэспубліцы? Амаль што нічога.

Бяззубасьць рэспубліканскіх уладаў у выкананьні імі ж прынятых пастановаў дазваляе меркаваць пра іх, як пра кіраўнікоў, якія могуць прымаць адно "папяровыя" рашэньні і пастановы. Дык каму ж выбаршчыкі Беларусі даверылі кіраўніцтва Рэспублікай? У пацярпелых раёнах яны не бываюць. Так, у Краснапольскі раён старшыня Саўміна М.Кавалёў (цяпер ужо былы – Рэд.) прыяжджаў толькі раз, а М.Дземянцей і Я.Сакалоў увогуле не паказваліся за чатыры гады пасьля аварыі.

Ужо ж вядома, што вашыя дзеці і ўнукі жывуць у Менску ў кватэрах, выгодных ва ўсіх адносінах. А калі б яны жылі тут, елі і пілі неправерану прадукцыю са сваіх гародаў, хадзілі па "бруднай" зямлі, варылі б мяса ў "ядзерных рэактарах", як у нас называюць печы, тады, магчыма, вы хутчэй павярнуліся б тварам да нашых праблемаў.

Краснапольскі раён на 100 працэнтаў забруджаны цэзіем і стронцыем, у раёне няма ніводнага метру "чыстай" зямлі. Нашыя дзеці пазбаўленыя дзяцінства, бо вымушаныя жыць як у канцэнтрацыйным лагеры, ня маючы магчымасьці выйсьці ў лес, на рэчку, на поплаў. Аздараўленчыя мерапрыемствы станоўчага эфекту не даюць. Выезд з раёну па медыцынскіх паказаньнях не дазволены. Міністэрства аховы здароўя БССР скасавала загад № 1 Магілёўскага абласнога аддзелу аховы здароўя ад 2 студзеня 1990 г. аб пераліку хваробаў, пры наяўнасьці якіх старым і хворым людзям можна было б выехаць з забруджаных раёнаў. У Краснапольскім раёне катастрафічна бракуе дактароў, настаўнікаў, працаўнікоў сьферы абслугі. Сьпецыялістаў накіроўваюць сюды прымусова, і тое на 1–2 месяцы. А якое жытло ім даюць? Старыя гнілыя хаты з пляцам, зарослым пустазельлем, удалечыні ад цэнтральных сядзібаў, куды і дарог няма, дзе адсутнічаюць нават школы і клубы.

Вось вынік вашай бяздумнасьці і пустаслоўя. За 1989 год з раёну выехала без усялякага дазволу больш дзьвюх тысяч жыхароў. За студзень–люты – ужо 537.

Пра ўсе гэтыя праблемы прадстаўнікі нашага раёну гаварылі на прыёме ў сакратара ЦК КПБ А.Камая. Ён абяцаў вырашыць усе гэтыя складанасьці.

Аднак прайшлі два месяцы, а справа зь месца не кранулася. Бо ніхто пра нас не клапоціцца.

Ніхто не клапоціцца пра старых людзей, якія пралівалі кроў на франтах Вялікай Айчыннай, аднаўлялі разбураную вайной гаспадарку, на якіх праводзіліся розныя "эканамічныя" эксьперыменты і рэформы, а памеры іхніх пенсіяў – толькі да 70 рублёў у месяц. Гэта людзі, якія жывуць у галоце і ня маюць магчымасьці купіць недзе ў "чыстых" раёнах хату ці кватэру. Але не яны ж узрывалі рэактар, дык чым жа яны вінаватыя перад дзяржавай?

Планаванае перасяленьне людзей з забруджаных раёнаў у зноў створаны Дрыбінскі раён праблему ня вырашыць, ды і будаўніцтва жытла там практычна яшчэ не распачатае. Урэшце, як пісала "Литературная газета" 7 красавіка 1990 году, гэты раён маюць зрабіць своеасаблівым карлікавым раёнам дзеля перасяленьня туды апаратчыкаў, а ня простых людзей з Краснапольскага раёну.

Да вас, кіраўнікі Рэспублікі, мы зьвяртаемся толькі з адным патрабаваньнем: неабходныя рашучыя дзеяньні дзеля выкананьня вамі ж прынятых пастановаў.

**Грамадскі камітэт Краснапольскага раёну па выратаванні дзяцей ад радыяцыі.**

## ПАПЕРАДЖАЛЬНЫЯ СТРАЙКІ

У канцы сакавіка па Гомлі пракацілася хваля страйкаў (забастовак). Так, 23 сакавіка застрайкавалі рабочыя радыёзаводу "Прамень", 26 – кавальска–прэсавага цэху ВА "Гомсельмаш", 28 сакавіка – рабочыя цэху № 2 электратэхнічнага з-ду. На "Гомсельмашы" і радыёзаводзе створаныя страйкавыя камітэты. Сярод патрабаваньняў, выстаўленых імі – неадкладнае выдзяленьне грошай з саюзнага бюджэту на ліквідацыю наступстваў аварыі і ўзбуджэньне судовай справы супраць былых і цяперашніх кіраўнікоў Рэспублікі, вінаватых у бязьдзеяньні і шматгадовым замоўчваньні праўды пра Чарнобыль. Рабочыя патрабуюць таксама кампенсацыйных даплатаў за падарванае радыяцыяй здароўе і адстаўкі адміністрацыі названых прадпрыемстваў.

Усё гэта былі толькі папераджальныя страйкі. Калі патрабаваньні ня будуць выкананыя, – заявілі прадстаўнікі страйкавых камітэтаў, – забастоўкі зноў распачнуцца ў Гомлі з 26 красавіка, у гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Паводле папярэдніх зьвестак пачатак агульнай забастоўкі прызначаны на 12.00.

Гарадзкая рада БНФ зьвярнулася да ўладаў з заявай аб правядзеньні 26 сакавіка агульнагарадзкога мітынгу. Пачатак прызначаны на 18.00. Прадстаўнікі страйкавых камітэтаў заявілі, што далучацца да акцыі БНФ.

### СЬПІС МЕДЫЦЫНСКАГА АБСТАЛЯВАНЬНЯ, ЯКОЕ НЕАБХОДНАЕ ДЛЯ ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ

1. Перасоўныя дазіметрычныя лабараторыі
2. Комплекс гематалагічнай лабараторыі
3. Аднаразавыя сістэмы пераліваньня крыві
4. Радыёметр 20046 (ГДР)
5. Радыяхімічная лабараторыя (Венгрыя)
6. Інкубатары для неданошаных (Венгрыя)
7. Бактэрыцыдныя апраменьвальнікі
8. Ультрагукавыя інгалятары
9. Маніторныя сістэмы (Польшча)
10. Электракардыёграфы "Біясэт" (ГДР)
11. Прыбор для радыёімуннага аналізу "Праквантум" (ЗША)
12. Манітор хуткай дыягностыкі заражэньня чалавека СІЧ (Англія)
13. Аўтаматычны апарат структуры крыві (Францыя)
14. Оталарынгалагічная ўстаноўка "Начашчыма" (Японія)
15. Аўтаматычны аналізатар клетак крыві "Тэхнікон" (ЗША)
16. Перасоўны дыягнастычны цэнтр "Майлз" (Аўстрыя)
17. Перасоўная радыёметрычная лабараторыя "Канберра" (ФРГ)
18. СІЧ "Фастікан", "Канберра" (ФРГ)
19. Атамна–адсарбцыйны спектрафотаметр "Перкін–Элмер" (ЗША)
20. Радыёімуналагічная лабараторыя "Фармацыя" (Швецыя)
21. Камплекты для хуткай дапамогі 62.00–17 "Амбу" (Данія)
22. Бронхафібраскопы В–20 (Японія)
23. Сістэма "Кліні–Гама" (Фінляндыя)
24. Аўтамат для агульнаклінічнага дасьледваньня мачы "Рэпінат" (ФРГ)
25. Эндаскапічныя прыборы для дзяцей і дарослых (Японія)

### СЬПІС МЕДЫКАМЕНТАЎ, ЯКІХ НЕ ХАПАЕ Ў ШПІТАЛЯХ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЫ

Альвезін, левамін, ліпафундзін, альбумін, пратэін, поліфер, рэа– і поліглюкін, салкасерыл, трэнтал, лідаза, румалон, дапмін, дыцынон, пратаміна сульфат, контрыкал, трасілол, нанінпрус, цэрэбралізін, эсенцыале, леспенефрыл, панзінорм, легалон, іназіэф, эльтыраксін, раверон, гамалон, эктафер, тымалін, антыбіётыкі (цэфаласпарыны, гентаміцын, канаміцын і інш.), плазма сьвежазамарожаная, полівітаміны.

**Сьпіс падрыхтаваны старшынём камітэту "Дзеці Чарнобыля" БНФ, народным дэпутатам БССР Генадзем Грушавым.**

НАВІНЫ

Выданьне Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Нумар падрыхтавалі Валеры Буйвал, Ірына Лазоўская, Алесь Ліпай, Зьміцер Пушкін, Юрась Рагуля, Алена Радкевіч, Алесь Суша (рэдактар). Афармленьне Кастуся Ашчанкі. Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і не вяртае. Адрас для карэспандэнцыі: 220113, Менск–113, абанементная скрынка 327.

*Здадзена у друк 23 красавіка 1990 г. Друкарня „LIESMA„ Заказ №5, Наклад 30000. Цана 50 кап.*

*ATBILDIGAIS PFR „ZEMELLATVIJAS„ BELETNA PIELIKUMU BALTKRIEVU VALODA M. BAGUSTOVS*